# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 4 (883) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 28 СТУДЗЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


## НА НІВЕ БГКТ

## СПОСАБ ЖЫЦЦЯ НІНЫ

У апошнія дні старога года ў былой ГРН у Грыгораўцах панаваў настрой і парадак, які пануе звычайна ў хаце перад вялікім святам. Работы хоць адбаўляй! Людзі з вёсак прыходзілі па нейкія апошнія грошы, працаўнікі пакавалі паперы ў папкі. Усё рыхтавалася да выезду ў Орлю, якая стала сядзібай вялікай гміны і куды далучылі даўнейшую ГРН Грыгораўцы.

У такі гарачы час заехала я ў ГРН Грыгораўцы, шукаючы тут Ніну Філіманюк — шматгадовую працаўніцу былой тутэйшай рады, а што важнейшае для мяне, адну з найбольш заслужаных удзельніц беларускага хору ў Бельску. Не падлягае сумненню, што кожны чалавек, які гадамі сістэматычна прымае ўдзел у працы такога цікавага і карыснага культурнага калектыву, як бельскі, належыць да ліку паважаных і вартасных культурных і грамадскіх дзеячоў. Такіх «спалэчнікаў» бельскі хор мае пару дзесяткаў. Але сёння хочацца напісаць пра аднаго з іх, аднаго з вярнейшых членаў гэтай вялікай сям'і, менавіта Ніну Філіманюк. Увесь знешні выгляд, спосаб размовы і разуменне жыцця сведчаць пра вялікую асабістую культуру і інтэлігенцыю гэтай дзяўчыны. Валасы колеру каштану, кароткія; сумнаватыя вочы за акулярамі; хударлявы твар; апранутая ў нагавіцы і накідку, яна прадстаўляе вобраз сучаснай беларускай дзяўчыны, якая не захавала традыцыйнага выгляду беларускі (русая каса, кругленькая, малако з мёдам).

Ніна жыве ў маленькай (14 хат) вёсцы Падбелле пры чыгуначнай станцыі Бельск—Чаромха. Нават солтыса свайго не мае, падлягае солтысу ў Дубяжыне.

Нарадзілася Ніна ў сям'і селяніна-чыгуначніка. Мала было ў бацькоў зямлі, мала таму і працы сялянскай. Жылі з бацькавых заробкаў чыгуначніка. Шэсць год таму назад бацька памёр, і тады Ніна пайшла на працу ў ГРН у Грыгораўцах. На пытанне, ці цікавая для яе была гэта праца, сказала: «Я люблю з паперкамі вазіцца». Сказала таксама, што больш яе цягне да працы ў новай арлянскай гміне, «бо людзі свае і гэты тэрэн ведаю», чым у Бельск, куды ёй прапанавалі. Будучы аднак вучаніцай вечаровага ліцэя ў Бельску і харысткай бельскага хору, пэўна пачала працаваць у Бельску.

У хор бельскі трапіла таксама ў сумны час пасля смерці бацькі. Ездзілі ў гэты хор некалі дзяўчаты з Дубяжына. Надумалася і паехала неяк разам з імі і яна. І так пачалося. Адкрыўся перад дзяўчынай новы свет, паверыла ў свае сілы і адчула сваю вартасць, а спяваць заўсёды любіла. Добра было быць у кругу людзей і спраў, дзе планавалася і выконвалася нешта карыснае, дзе чалавек аддаваў свае здольнасці і мог адчуваць сябе актыўным і патрэбным.

Дубяжынскія дзяўчаты перасталі ездзіць на рэпетыцыі бельскага хору, бо паўстаў у іх свой хор. Ніна не перастала, і нават у думкі ніколі ёй не прыйшло, што можна хор пакінуць. На познія вечаровыя (у 19 гадзін) рэпетыцыі



прыязджала сістэматычна, хаця станцыя Падбелле ляжыць у дзесяці кіламетрах ад Бельска. А Ніна часта-часценька, не маючы часу вяртацца дадому, адразу ехала з Грыгораўцаў — 13 кіламетраў. І не перастала гэтак упарта і рэгулярна прыязджаць. Ці можна такой дзяўчынай не захапляцца? Яна мае свой стыль у выглядзе і ў працы, як прафесіянальнай так і грамадскай. Яе стыль — гэта стыль саліднасці.

А што хор ёй дае? «Нават мама кажа ўжо таксама, што мне гэтая язда нічога не дае, мо кінуць варта. Але, ведаеце, цяпер мяне было б вельмі цяжка адцягнуць ад хору. Ён стаўся маёй адзінай разрыўкай, інакш з нудаў чалавек выканчыўся б. Зжылася я з хорам, з ім пазнала кусок свету і многа людзей, тым больш, што хор наш цяпер вырас».

*Вера Леўчук*

## НАСТАЎНІК І САМАДЗЕЙНІК

Вясною 1972 года на павятовым аглядзе драматычных гурткоў у Саколцы калектыў з далейшага ад якога-колечы вялікага цэнтра культурнага жыцця сяла Белавусы заняў першае месца і атрымаў узнагароду — магнетафон. Пастаноўка белавусаўскімі артыстамі-самадзейнікамі «Лекара міма волі» Мальера заваражыла гледачоў, а прысутны на аглядзе рэжысёр беластоцкага тэатра імя А. Вянгеркі Збігнеў Бэсэрт не мог устрымацца, каб не выразіць ім самага высокага прызнання. На працягу некалькі месяцаў калектыў выступаў са сваёй пастаноўкай чатыры разы, у тым ліку два разы ў самой Саколцы. І кожны раз зала была перапоўнена, а воплескам не было канца. На ўрачыстым адкрыцці культурна-асветнага сезону ў кастрычніку 1972 г. клуб «Руху» ў Белавусах, пры якім дзейнічае калектыў, атрымаў ад павятовага праўлення прадпрыемства па распаўсюджанню друку спецыяльную ўзнагароду — 10 тысяч злотых на музычныя інструменты. Тады ж таксама ўзышоў на сцэну невысокі шчуплы пажылы ўжо чалавек. Ён прыняў прызнаныя яму дыплом і ўзнагароду, а зала загрымела авацыямі. Гэтым сціплым, ветліва ўсміхаючымся чалавекам быў

ЭДУАРД КАЗЛОЎСКІ — ДУША КАЛЕКТЫВУ Ў БЕЛАВУСАХ.



*Эдуард Казлоўскі. Фота — М. Гайдука.*

Сустрэліся мы з ім у Белавусах у школе, бо Э. Казлоўскі ўжо 25 год працуе настаўнікам. Атмасфера была асаблівая: візітатар Ізабела Сядлецкая закончыла візітацыю і адразу пасля ўрокаў павінна было адбыцца падсумоўваючае працу школы пасяджэнне педагагічнага савета. Многа часу на размову мы не мелі. Але і з кароценькай гутаркі перада мною паўстаў у поўнай красе працавіты жыццёвы шлях гэтага нястомнага сеўцы высакароднага і прыгожага па сёлах Сакольшчыны. Э. Казлоўскі паходзіць з сялян з вёскі Трафімаўка, што каля Янова. Настаўнічаў у Праслаўцы, Саколцы, Васілёўцы, Янове, Красным — усё па пару год, а вось на стала абсталяваўся ў школе ў

Працяг на стар. 4



*Бельскія кантрасты.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 10 студзеня адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела супольна з членамі арганізацыйнага камітэта конкурсаў на беларускую песню і тэатральных калектываў. Аддзел культуры павятовай рады нарадовай прадстаўляла Аліцыя Янкоўская, павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі — Базыль Бэзюк, павятовую культурна-асветную парадню — Станіслава Ганеўская, павятовы аддзел добраахвотных пажарных каманд — Рышард Лось і II аддзел прадпрыемства «Рух» — Галіна Яцэвіч. Абмеркаваны былі арганізацыйныя справы і прынцыпы прызнавання ўзнагарод, а таксама было пастаноўлена, што конкурс на «Беларускую песню — 73» у Беластоцкім павеце адбудзецца 28 студзеня ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку на вул. Варшаўскай 11. Прыме ў ім удзел больш 30 чалавек.

Затым штатны працаўнік аддзела Геня Іванюк зачытала справаздачу аб дзейнасці аддзела ў мінулым годзе і прадставіла план працы на першае паўгоддзе 1973 года. Пасля ажыўленай дыскусіі справаздача і план працы былі прыняты.

Нараду вяла Ніна Цыванюк. Прыняла ў ёй удзел кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Валя Філіпюк.

■ Прэзідыум праўлення сямяцігкага аддзела 10 студзеня абмеркаваў справаздачу аб дзейнасці ў 1972 годзе і зацвердзіў план працы да канца чэрвеня 1973 г.

■ Фінальныя конкурсы на «Беларускую песню—73» і тэатральных калектываў, як заўсёды, будуць праводзіцца ў памяшканні ГП. Першы адбудзецца 25 лютага, а другі 25 сакавіка.

■ 13 студзеня ў памяшканні ГП адбылася традыцыйная карнавальная танцавальная вечарына, на якой добра гулялі члены і сімпатыкі БГКТ. Арганізатарам яе быў гарадскі аддзел БГКТ.

■ У Палацы культуры і навукі ў Варшаве варшаўскі аддзел БГКТ арганізаваў вечарыну з нагоды 50-ай гадавіны СССР. На ёй з прамовай выступіў член ГП Віктар Швед.

Харавы калектыў бельскага аддзела 13 студзеня ў памяшканні прэзідыума мясцовай гарадской рады нарадовай арганізаваў вечарыну, прысвечаную 51-ай гадавіне ўтварэння БССР.

■ Падобная вечарына 13 студзеня адбылася ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы, яе арганізаваў аддзел БГКТ.

■ 15 студзеня прэзідыум праўлення гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку прыняў справаздачу аб дзейнасці аддзела ў 1972 годзе, план працы на I квартал 1973 года, а таксама абмеркаваў справы, звязаныя з арганізацыяй навагодняй ёлкі для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ. У сувязі з выездам з Беластока сакратара праўлення аддзела Зосі Стаськевіч у студзені ўсімі справамі аддзела займецца член Прэзідыума аддзела Анна Амбражэй.

■ У гуртках БГКТ у Юшкавым Грудзе, Баброўніках, Пяньках і Новай Волі (Беластоцкі павет) адбыліся сходы з удзелам штатнага працаўніка аддзела Гені Іванюк. На іх абмяркоўваліся актуальныя справы гурткоў і найбольш увагі было прысвечана конкурсу на беларускую песню. Вельмі цікава выглядае гэта справа ў Новай Волі. Там рыхтуюцца два вакальныя калектывы. Адзін з моладзі, а другі са старэйшых асоб. (мх)

# Першая ўрачыстая




У першых днях студзеня 1973 года адбыліся першыя ўрачыстыя сесіі гмінных радаў нарадовых. Нам давялося прымаць удзел у шымкаўскай сесіі.

Гміна Шымкі — адна з дванаццаці ў Беластоцкім павеце. Яна ахоплівае амаль 16 тысяч гектараў зямлі ў прыгранічным раёне, дзе жыве каля 5 тысяч асоб.

Гміна Шымкі мае выключна сельскагаспадарчы характар. Да яе эканамічных і грамадскіх праблем будзе яшчэ нагода вярнуцца, а цяпер прапануем увазе нашых чытачоў фатаграфічную дакументацыю з гэтай сесіі.

Адкрыў яе старэйшына сярод радных Ян Леўшук з Шымкаў (здымак І).




Першая ўрачыстая сесія Шымкаўскай гміннай рады адбылася ў гімнастычнай зале пачатковай школы ў Ялоўцы. Гэта не таму, каб радныя адразу, на пачатку сваёй дзейнасці пасля адміністрацыйнай рэформы вымушаны былі добра гімнастыкавацца ў пагадненні інтарэсаў сваіх выбаршчыкаў з інтарэсамі агульнадзяржаўнымі. Проста святліцу ў нядаўна пабудаванай сядзібе Шымкаўскай ГРН прыйшлося перагарадзіць на патрэбы раптам пашыранай адміністрацыі і ў сувязі з гэтым не было дзе ў Шымках змясціць такой колькасці людзей. Але шмат чаго цяпер там будуецца і праз які год-два падобных клопатаў шымкаўцы мець ужо не будуць.

У першым радзе (здымак 2) пазнаю шматгадовых тутэйшых грамадскіх дзеячоў: Уладзіміра Стэльмашука з Дублян (першы злева), Віктара Гапуніка з Ганчароў і Яна Ваўрэшука з Навасадаў.

Сесія праходзіла ва ўрачыстым настроі. Аднак гэты ўрачысты настрой не быў у сілах, на жаль, абагрэць залы, якой на працягу двух тыдняў ніхто не атопліваў. Таму ўсе радныя сядзяць у цёплай вопратцы. Толькі прэзідыум сесіі геройскі вытрымоўваў у адных святочных касцюмах.

Сакратар прэзідыума ПРН у Беластоку Валянцін Тафткевіч (здымак 3) аб'яўляе пастанову Ваяводскай рады аб устанаўленні гміны ў Шымках. «Гэты акт, — заяўляе ён, — пільна сцеражыце і старанна перахоўвайце. Ён устанаўляе спраўную адміністрацыйную адзінку, якая ў сілах вырашаць на месцы ўсе праблемы сялян і іншых жыхароў тутэйшай гміны».

На гэтай сесіі радныя стварылі 4 рабочыя камісіі і ў тайным галасаванні выбралі старшыню рады і яго намесніка. Голас аддае сакратар гміннага камітэта ПАРП у Шымках Яўгеній Азябла (здымак 4). У выніку тайнага галасавання старшынёю Шымкаўскай ГРН радныя выбралі вядомага ў гэтым раёне грамадскага дзеяча Мікалая Мікуця з Бандароў, які сам шмат год працаваў у радах нарадовых. Яго намеснікам стаў Ян Леўшук з Шымкаў.

Пасля гэтага радныя пазнаёміліся з начальнікам сваёй гміны Балеславам Сурдацкім (здымак 5). Многія з іх ведалі яго ўжо раней. Балеслаў Сурдацкі на працягу 9 апошніх гадоў настаўнічаў у ялоўскай школе. Прыехаў ён на Беласточчыну здалёк — аж з Хрубяшоўскага павету ў Жэшоўскім ваяводстве, але ў Ялоўцы заснаваў сваё сямейнае гняздо і не мае ўжо намеру пакідаць нашага ваяводства. Яму ледзь 27 год. Мае няпоўную вышэйшую адукацыю, якую рашыў папоўніць, энергічны, аптымістычна глядзіць у будучыню гэтай часцінкі нашай краіны.

*Тэкст і фота В. Рудчык*










Заўсёды паўтаралі мы (і паўтараць будзем), што Беласточчына — невычэрпная крыніца фальклору. Штораз часцей нашы калектывы, працуючыя пад патранатам БГКТ, будуюць сваю праграму на фальклоры. Але дагэтуль яшчэ не пісалі мы пра калядныя калектывы. А яны ёсць, і ў калядны перыяд, паводле прыблізных дадзеных Ваяводскага дома культуры ў Беластоку, паяўляецца іх у ваяводстве аж некалькі соцень. З'яўляецца гэты культурна-абрадавы рух найбольш шырокай формай культурнай дзейнасці. Колькі звёзд, колькі батлеек, выкананых з вялікім мастацкім знаўствам, колькі дасціпных народных песень і пагаворак грыміць тады па хатах і вуліцах вёсак і гарадоў! Колькі калядных вясёлых карагодаў праходзіць тады ўздоўж і ўшыр Беластоцкай зямлі!

Каб заапекавацца гэтым рухам і ўключыць яго ў агульны нурт багатай самадзейнасці ваяводства, аддзел культуры Прэзідыума ВРН у Беластоку, Ваяводскі дом культуры з культурнай парадняй і павятовыя дамы культуры, а таксама Саюз добраахвотнай стражы пажарнай арганізавалі і праводзяць першы раз у ваяводстве агляд калядных і абрадавых калектываў.

## Агляд калядных і абрадавых калектываў

Да сённяшняга дня закончыліся агляды ў паветах. Адбыліся яны ў 11 паветах, якія сумелі арганізаваць і правесці гэтыя агляды ў сябе. Усе паветы, дзе пражывае беларуская нацыянальная меншасць, удзел у гэтых аглядах прынялі. Разам усіх калектываў, якія выступілі на павятовых аглядах, было звыш дзевяноста.

Двухдзённы ваяводскі агляд адбудзецца ў Беластоку 17 і 18 лютага і дапушчаны да яго будуць найлепшыя па ўзроўню і якасці калектывы, незалежна ад паветаў.

Цікавіў нас удзел калядных калектываў з беларускіх вёсак. Ці былі яны, ці многа, з якіх вёсак? Аказваецца, што ў гэтай форме нацыянальныя беларускія калядныя і абрадавыя звычаі прадстаўляюць вялікае багацце і займаюць другое месца пасля Курпёўшчыны. З усіх паветаў, дзе жыве беларускае насельніцтва, удзел у аглядах прадстаўлены вельмі шырока. Яшчэ не маем назваў найцікавейшых калектываў і назваў вёсак, з якіх яны родам, але Ваяводскі дом культуры паведаміў нам, што калі ўзяць пад увагу жывасць калядных і абрадавых традыцый і багацце фальклору, то найлепш прадстаўляецца яна ў паветах Сямяціцкім, Гайнаўскім, Сакольскім, а потым толькі ідзе Высокамазавецкі, Манецкі і Граеўскі паветы. Калі прыняць пад увагу формы мастацкага прадстаўлення каляднага і абрадавага фальклору, то найбагацейшыя яны ізноў жа ў Сямяціцкім павеце, а потым ідуць Высокамазавецкі і Граеўскі паветы.

Ваяводскага агляду калядных і абрадавых калектываў з вялікім зацікаўленнем чакаюць кругі культурных дзеячоў, верачы, што нарэшце наша фальклорнае багацце выйдзе на шырокі свет і змогуць людзі пабачыць, чым нашы хаты багаты.

З свайго боку цешымся вельмі, што ідэя збірання, захавання, даследавання і выкарыстоўвання фальклору ў шырокай культурнай дзейнасці ахоплівае ўсё большыя кругі людзей, і знаходзіць усё больш прыхільнікаў. Мы заўсёды былі за!

*Вера Леўчук*

## МАЛАДЫЯ З ШЫМАК

У вёсцы Шымкі Беластоцкага павету ёсць нямала моладзі.

Свае культурныя імкненні моладзь рэалізуе ў клубе «Руху». У клубе адзначаліся шматлікімі мерапрыемствамі такія гадавіны, як 50-годдзе СССР або 90-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа, тут прайшла алімпіяда асветна-палітычных ведаў, кулінарныя курсы, сходы вясковых маладзёжных і грамадскіх арганізацый. Моладзь прыходзіць сюды пачытаць прэсу (пры тым неабходна падкрэсліць, што чытае яе многа), пaглядзець тэлевізар, пагутарыць са знаёмымі. Члены ЗМВ і БГКТ намераны арганізаваць інструментальны калектыў і аматарскі драмгурток. Зроблены ўжо першыя крокі.

Члены ЛЗС пабудавалі грамадскім чынам спартыўную пляцоўку. Шымкаўская футбольная каманда ў мінулым годзе спаборнічала ў розыгрышах за тое, каб увайсці ў «Б» клас.

Маладыя жанчыны з КГВ (старшыня яго Вера Раманчук) занялі першае месца ў павеце ў конкурсе на «Найпрыгажэйшы букет агародніны». Вырасцілі яны некалькі сартоў малавядомай агародніны, а ўжо найлепш ім удаўся ярмуж. За атрыманую ўзнагароду жанчыны пастанавілі купіць сабе пару дзесяткаў фруктовых дрэўцаў і пасадзіць іх, а таксама купіць апырсквачы для апырсквання гэтых пладовых дрэў.

(ця)

## Колькі чаго чытаюць

Паводле даных пошты ў Бельску Падляшскім, у мінулым 1972 годзе ў павеце было больш як 19 тыс. падпісчыкаў розных часопісаў. На часопіс «Аграхімія», дзякуючы намаганням сельскагаспадарчай службы і працаўнікоў паасобных поштаў, падпісалася 4045 асоб. На сельскагаспадарчую газету «Наша весь» у канцы года было 1366 падпісчыкаў. Жыхары Бельшчыны выпісвалі ў канцы снежня 1972 г. 1588 экземпляраў газеты «Грамада Рольнік Польскі». «Газета Беластоцкая» мела 3620 падпісчыкаў, «Зялёны штандар» — 126, «Хлопская дрога» — 719. Іншыя газеты і часопісы мелі значна менш падпісчыкаў.

На Бельшчыне ў канцы 1972 года 1341 чалавек выпісваў «Ніву». Найбольшай колькасці чытачоў дабілася пошта ў Рыбалах. Там было 218 падпісчыкаў. Другое месца заняла пошта ў Грыгароўцах — 167 падпісчыкаў і трэцяе месца пошта ў Пасынках — 176 падпісчыкаў.

Насоўваецца пытанне — ці 1341 падпісчык «Нівы» ў павеце гэта многа ці мала? Калі прыняць пад увагу той факт, што беларускае насельніцтва займае па колькасці палавіну насельніцтва Бельшчыны, дык лік гэты задавальняючы. А калі разглядаць магчымасці павелічэння чытачоў «Нівы» ў Бельскім павеце, дык яны вялікія і лік гэты недастатковы. У вышэй пададзеныя лікі не ўваходзіць продаж газет у кіёсках «Руху». (мх)

## У Беластоку спяваюць і танцуюць

Так коратка можна акрэсліць заняткі беларускага калектыву, які працуе цяпер у Беластоку пры гарадскім аддзеле БГКТ. Вядзе яго інструктар ГП Янка Крупа. 38 дзяўчат і хлопцаў прыходзяць на рэпетыцыі гэтага калектыву ў будынак Галоўнага праўлення два разы ў тыдзень — у чацвяргі і нядзелі.

Наведалі мы адну з такіх рэпетыцый. Прыемна было глядзець, як гэты вакальна-танцавальны калектыў рыхтуецца да першага публічнага выступлення, якое яны запланавалі на канец лютага, на гадавіну Савецкай Арміі.

Дзяўчаты і хлопцы спявалі і танцавалі якраз бадзёрую песню: «Кума мая, кумачка, дзе жывеш». Раскручваўся і закручваўся гэты вясёлы малады карагод.

Трэба сказаць, што цікавая канцэпцыя, якую Крупа хоча рэалізаваць з беластоцкім калектывам: менавіта, не статычная група людзей, якая толькі спявае, але калектыў у пастаянным руху на сцэне, дзе словы, гукі і танцавальныя крокі складаюць адну цэласць.

Гэта цяпер, зрэшты, найбольш сучасная форма, якая прымяняецца ва ўсіх вядомых калектывах, між іншым, у «Мазоўшы» і «Шлёнску», а таксама ў замежных калектывах.

Да свайго першага экзамена калектыў рыхтуецца з наступнымі песнямі: «Кума мая, кумачка», «Ой, сеяла Ульяніца лянок», «Як я была мала, мала», «Касіў Ясь канюшыну», «Дзяўчынанька, шуміць гай», «У месяцы верасні».

Падборка цікавая, песні прыгожыя і мілыя; жадаем як найбольш поспехаў спевакам і танцорам з гарадскога аддзела БГКТ. (вл)

 

## ЛАТВІЙСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Латвійская ССР утворана 21 ліпеня 1940 г., увайшла ў Саюз ССР 5 жніўня 1940 г. Тэрыторыя — 63,7 тысяч кв. км, насельніцтва — 2 мільёны 409 тысяч чалавек. Сталіца Латвійскай ССР — горад Рыга.

Тэрыторыя Латвіі нізінная, у яе цэнтры знаходзіцца Сярэднелатвійская раўніна, а на ўсходзе — Відземскае ўзвышша, на захадзе ж — Курземскае ўзвышша. Латвія мае шырокі доступ да мора (узбярэжжы Балтыйскага мора і Рыжскага заліву) і шэраг портаў, сярод якіх найбольшыя Рыга і Ліепая. У рэспубліцы каля 3 тысяч азёраў, яны займаюць каля 1,6 прац. тэрыторыі. Самая вялікая рака Латвіі — Даўгава (Заходняя Дзвіна). Клімат пераходны ад марскога да кантынентальнага.

Латвія багата будаўнічай сыравінай — даламітамі, вапнякамі, гіпсам, глінамі і пяскамі, а таксама торфам, запасы якога ацэньваюцца на 11,4 мільярда кубаметраў. На заходнім марскім узбярэжжы Латвіі адкрыты залежы нафты.

Латвійская ССР — індустрыяльная рэспубліка з развітай сельскай гаспадаркай. У яе прамысловасці вядучымі галінамі з'яўляюцца: электратэхніка, электроніка, радыётэхніка, прыладабудаванне, вагонабудаванне, суднабудаванне, выраб хімічна-фармацэўтычных рэчываў, апрацоўка драўніны. Побач з гэтай прадукцыяй шырока вядомы ва ўсім Савецкім Саюзе вырабы латвійскай лёгкай і спажывецкай прамысловасці: розныя віды трыкатажу, тканіны, галантарэя, мясныя і рыбныя кансервы. Колькасць гэтых вырабаў няспынна павялічваецца: у горадзе Огр узводзіцца адзін з найвялікшых у Еўропе прадзільна-трыкатажны камбінат, а ў Ліпені — вялікі камбінат галантарэйных вырабаў. Сельская гаспадарка Латвіі належна забяспечана сучаснай тэхнікай, праводзяцца вялікія працы па меліярацыі. Латвійская ССР спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага і племяннога быдла, а таксама свіней на беконы.

Навуковыя даследаванні праводзяцца ў Акадэміі навук Латвійскай ССР і больш чым у 120 навукова-даследчых інстытутах, працуе 10 вышэйшых навучальных устаноў, 1137 агульнаадукацыйных школ розных відаў, 55 спецыяльных сярэдніх школ, выходзяць 174 газеты, часопісы і іншыя перыядычныя выданні. У рэспубліцы дзейнічае 10 прафесіянальных тэатраў, Рыжская кінастудыя, тэлестудыя, радыё. (мг)

## ВЯЛІКІ КОНКУРС







ДОМ ВЯСЦ: -НЕ ЗАДАМ ТРАСЦ!

### ЛЯДОЎКА — У КОЖНАЙ ХАЦЕ

У сучаснай вясковай хаце ўсё часцей мы бачым лядоўку (халадзільнік). Ці кожная аднак маладая гаспадыня (гаворым — маладая, бо старэйшыя вясковыя гаспадыні ў час сваёй маладосці аб чымсьці такім нават не чулі) ведае, як правільна карыстацца халадзільнікам?

А трэба ім умець карыстацца, каб не толькі не псаваліся паложаныя туды прадукты, але каб доўга і спраўна ён функцыянаваў.

Перш за ўсё ў лядоўцы неабходна ўтрымліваць аднолькава нізкую тэмпературу, паколькі ваганні, а асабліва павышэнне тэмпературы вышэй +8°C спрыяе псаванню прадуктаў. А трэба сказаць, што лядоўка не адсвяжае прадуктаў, а толькі стварае адпаведныя ўмовы для даўжэйшага перахоўвання прадуктаў у свежым стане.

Што рабіць, каб тэмпература ў халадзільніку была роўная? Перш за ўсё ніколі не ўстаўляць у яе гарачай стравы. Гарачую страву перад тым, як устаўляць у лядоўку, трэба астудзіць. Дзверы лядоўкі адкрытымі трымаем нядоўга. Нельга таксама халадзільнік перагружаць. Сярэдзіну халадзільніка можна запоўніць у 50—75 працэнтах сырымі прадуктамі ці ў 25—50 працэнтах — гатовай стравай. Тады да ўсіх прадуктаў, паложаных у халадзільнік, будзе доступ халоднага паветра.

Неабходна таксама забяспечыць прадукты перад высыханнем. У высушаных прадуктах і стравах адбываюцца некарысныя змены ў выглядзе і смаку. Каб забяспечыць перад высыханнем прадукты, можна класці іх ў спецыяльны посуд з крышкаю, які прадукуецца спецыяльна для халадзільнікаў з жалезнай эмаліраванай бляхі. У такім посудзе можна перахоўваць мяса, рыбу, ну, і вараную страву. Такія прадукты, як каўбасы, тлушч, сыры, гародніну і фрукты, добра класці ў нейлонавыя мяшочкі, або васковую ці пергаментную паперу. Аднак лепш ужываць нейлонавыя мяшочкі, паколькі прыгадзяцца яны яшчэ не на адзін раз.

Неабходна таксама старанна загортваць прадукты, каб забяспечваць іх перад пранікannem розных запахаў. Некаторыя прадукты, як, напрыклад, малако, масла, сыры, вельмі лёгка ўпітваюць у сябе інтэнсіўныя запахі: напрыклад, цыбулі, капусты, рыбы, лімонаў і г.д. Таму гэтыя прадукты неабходна загортваць асабліва добра.

І яшчэ адно: лядоўка павінна быць заўсёды чыстая. Трэба таму ўважліва сачыць за чысцінёй прадуктаў, якія мы кладзем у яе, а таксама рэгулярна мыць яе.

*Гаспадыня*




## КІЕЎ

Горад Кіеў — гэта трэці па велічыні горад Савецкага Саюза. Зараз ён налічвае звыш 1.650 000 жыхароў.

Аб Кіеве чытачы напэўна многа чулі. Але ёсць пагаворка: «Кіеў лепей адзін раз убачыць, чым сто разоў пра яго чуць». І гэта шчырая праўда.

Сталіца Савецкай Украіны ў вялікай пашане ў украінскага народу. Украінцы паўтараюць: — «Як тебе не любити, Киеве мий».

Горад мае прыгожыя вуліцы, поўна зяляніны. Яна стварае цудоўны выгляд гораду і ачышчае паветра.

У Кіеве шырока разгорнута будаўніцтва жыллёвых дамоў. Штодзённа 70 сем'яў атрымлівае тут новыя кватэры. На 10.000 жыхароў прыпадае 85 лекараў. 50 000 студэнтаў вучыцца толькі ў Кіеўскім універсітэце і палітэхніцы. А ў Кіеве ёсць звыш 20 вышэйшых навучальных устаноў. У горадзе належна выконвае заданні транспарт. Перш за ўсё «метро». Кіеўскі транспарт штодзённа перавозіць звыш 2.000.000 пасажыраў.

У горадзе шмат помнікаў: У. І. Леніну, Героям паўстання, рабочым «Арсенала», змагарам за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі, герою грамадзянскай вайны Н. А. Шчорсу, Мікалаю Астроўскаму, А. С. Пушкіну, Багдану Хмяльніцкаму, Тарасу Шаўчэнку, князю Уладзіміру і інш.

Ёсць планетарый, дзе можна паглядзець на штучным небе Сонца, Месяц і іншыя планеты, а, уключыўшы «Маятнік», пераканацца ў пастаяннай змене палажэння зямлі.

Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі УССР — гэта сапраўды асобны горад, які мае свае вуліцы, плошчы, рэстараны, кіно і інш.

Кіева не памілаваў страшэнны ураган другой сусветнай вайны. Гітлераўцы разбурылі звыш 1000 прадпрыемстваў. Знішчылі 6.000 дамоў. Аграбілі фабрыкі і заводы. Вывезлі ў Германію запасы сыравіны і прадуктаў харчавання. Узарвалі Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры. Забілі каля 200 тыс. жыхароў і на катаргу ў Германію вывезлі звыш 100 тыс. кіяўлян.

Адступаючы на захад, фашысты ўмацаваліся ў Кіеве на выгадных для іх пазіцыях, выкарыстоўваючы натуральныя вышыні, на якіх стаіць горад. З увагі на гэта, аказалася немагчымым узяць горад з ходу. Пачаліся жорсткія бai за вызваленне горада. Раніцай 6 лістапада 1943 года Кіеў быў вызвалены.

На франтах яшчэ ішлі баі, а кіяўляне ўжо ўзяліся за адбудову горада. Пры дапамозе ўсіх народаў Савецкага Саюза і ў сталіцы Украіны былі залечаны ваенныя раны.

У Парку Вечнай Славы ў гонар воінаў Вялікай Айчыннай вайны пабудаваны манумент-абеліск з цёмнашэрага паліраванага граніту. Падняўся ён у неба 26-метровай вышынёй.

Ля падножжа гэтага помніка ёсць магіла Невядомага салдата. На ёй гарыць непагасны агонь, як той агонь любві да Айчыны, які палыхаў у сэрцах адважных абаронцаў радзімай зямлі.

У парку пахаваны 34 героі Айчыннай вайны. Над іх магіламі ціха шалясцяць лісці таполяў, каштанаў, клёнаў. Героі спяць вечным сном пад калыханку жалобнай мелодыі, якая чуецца ўдзень і ўночы па ўсяму цудоўнаму кіеўскаму парку, наводзячы ўспамін мінулага.

*Уладзімір Навіцкі.*



*Помнік Т. Шаўчэнку ў Кіеве.*




Дні міналі за днямі, яны прыносілі Кноблаху ўсё, пра што можа толькі марыць салдат, які не знаходзіцца ў водпуску. Яму дазвалялі спаць, колькі хочацца, есці і піць, колькі ўлезе. Пасля снедання ён выходзіў на шпацыр, вечарамі глядзеў кінафільмы. Адзінае, што яму давялося рабіць, гэта расказваць якой-небудзь новай групе афіцэраў пра Грэльхамера і яго войска. Аднойчы яго слухалі высокапастаўлены эсэсаўскі афіцэр і лейтэнант авіяцыі. Абодва схіліліся над картамі, панатыкалі ў іх сцяжкі. Нарэшце лётчык сказаў:

— Гэта можна зрабіць на «Фоке-Вульфе 290». Ніякая іншая машына з гэткім грузам такую адлегласць не пераадолее.

— Я раздабуду вам «Фоке-Вульф», — паабяцаў эсэсаўскі афіцэр. — У ноч на суботу пачнецца аперацыя «Бумеранг».

Афіцэр-эсэсавец адчуваў амаль тое ж, што і генерал. Ён, чалавек, які безліч разоў засылаў у тыл Чырвонай Арміі сакрэтных агентаў і дыверсантаў, убачыў цяпер рэальную магчымасць зноў перайсці ад дробных акцый, якімі яму даводзілася займацца апошні месяц, да буйных аперацый.

— Цяжкавата будзе дастаць самалёт, — сказаў ён на развітанне лётчыку, — але так ці інакш ён у вас будзе.

Кноблах чуў гэтыя словы і вельмі ўзрадаваўся. Ён пільна разглядаў эсэсаўскага начальніка, на шыі якога пабліскваў крыж, і падумаў: «Калі такі чалавек бярэцца за справу, перашкод не існуе».

На наступны дзень у нарадзе прынялі ўдзел нейкі обер-лейтэнант і фельдфебель, і Кноблаху зноў давялося расказваць усё спачатку, але на гэты раз ужо ва ўсіх дэталях. Альтэнкірха — так звалі обер-лейтэнанта — цікавіў кожны куст, кожная лагчына паблізу ад таго ўскрайку лесу, дзе двойчы на тыдзень будзе чакаць обер-лейтэнант Вайтхазе.

— Обер-лейтэнант прыйдзе адзін? — запытаў Альтэнкірх.

— Гэта не выключана, — адказаў Кноблах. — Магчыма, адзін. А магчыма з двума-трыма салдатамі.

— Дрэнна, што вы гэтага не ведаеце. З Вайтхазе вы знаёмы?

— Не, — сказаў Кноблах.

— Кепска. Іменна мне давядзецца шукаць яго. Я спушчуся на парашуце ў ноч на суботу.

— Ах, так! — прамовіў Кноблах і пачаў больш уважліва прыглядацца да обер-лейтэнанта — пазіраў на яго доўгі, худы, крыху скошаны наперад твар, невялічкую галаву з рэдкімі, зачэсанымі простым праборам валасамі, худымі скуламі, на якіх відаць было, як варушацца косці, калі ён гаварыў.

— Што ж, жадаю поспеху, — сказаў Кноблах.

— Дзякую. А вам жадаю добра прабавіць час у водпуску.

Кноблах падзякаваў яму, папрасіў дазволу ісці і выйшаў. Ён зрабіў усё, што мог, сказаў усё, што мусіў. Цяпер ён адчуваў сябе больш знясіленым, чым тады, калі прабіраўся да лініі фронту, хоць апошнія дні ўдосталь еў і многа спаў. Ніколі, ён быў упэўнены, не забудзе ён ніводнай гадзіны гэтых дзён.

Тым жа вечарам Кноблах паехаў дадому, да сваёй жонкі. Тое, што адбылося пасля гэтага, рабілася ўжо без яго.

Галоўная роля перайшла цяпер да обер-лейтэнанта Альтэнкірха. Яму было 26 год. Сем гадоў ён праслужыў у вермахце і ўжо два гады, як стаў афіцэрам. Ён глядзеў на карту, на якой відаць былі лясныя масівы на поўнач ад Віцебска, і спрабаваў добра разабрацца ў самім сябе, зразумець, чаму ён сам добраахвотна выклікаўся ўдзельнічаць у гэтай дэсантнай аперацыі. Гаварыў сабе: «Калі ўсё пойдзе добра, я атрымаю «Рыцарскі крыж». Ці вялікія шанцы на ўдачу, загадзя сказаць было нельга, таму што яму вядома было мала фактараў. Урэшце, якое значэнне мае, колькі ёсць працэнтаў шанцаў на поспех, адзін, два ці тры, — астатняе, да сотні, усё роўна азначае разбітую пры прызямленні патыліцу, аўтаматную кулю з кустоў, смерць ад голаду ці холаду або ад якой хваробы. «Тысяча пяцьсот салдат і афіцэраў, — падумаў Альтэнкірх. — Гэта ўсё ж такі што-небудзь значыць».

Альтэнкірх не адрываў позірку ад карты, хоць і разумеў, што няма ніякага сэнсу ламаць сабе галаву, загадзя стараючыся прадбачыць будучае. У яго былі рэальныя клопаты — шмат чаго трэба было зрабіць за гэтыя дні: параіцца з лётчыкам наконт кожнага кілаграма грузу, які неабходна перакінуць праз пяцьсот кіламетраў, абмеркаваць усё са сваім радыстам, оберфенрыхам Будэрам.

— Паслухайце, — аднойчы сказаў яму эсэсаўскі афіцэр, — у мяне ёсць для вас навіна: вы возьмеце з сабой рускага, старшага лейтэнанта Чырвонай Арміі.

Альтэнкірх вылупіў вочы.

— Так, — гаварыў далей эсэсавец. — Уласаўца. Вы чулі што-небудзь пра генерала Уласава? Яго ўзялі ў палон на Волхаве, і ён сфарміраваў дывізію з людзей, якія незадаволены Саветамі. Гэтага чалавека я прывёз ад яго. Някепска гаворыць па-нямецку, будзе вам памагаць.

Альтэнкірх падумаў: «Значыць, здраднік. Чалавек, які прадаў сваіх, а цяпер служыць нам». Нейкае трывожнае пачуццё апанавала яго. Захацелася запярэчыць супраць мэтазгоднасці мець такога спадарожніка, але ніводзін пераканаўчы довад у галаву не прыходзіў.

— Выдатная ідэя, — гаварыў эсэсаўскі афіцэр. — Мы забяспечым вас рускімі грашыма, і гэты чалавек будзе купляць вам харч у вёсках. Да таго ж, ён можа здабыць важныя весткі.



 

